№ 35. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 35 (127). Год II. Вільня, 1 мая 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## РАСПАД РАСЕІ?

**ВЕНА. 28 IV. Кіеускіе газэты даносяць:**

**Нацыянальны Конвэнт Украіны выбрау камісію, каторая аб'яулена за тымчасовы урад для Украіны. Апрацован праект палітычнай сыстэмы упрауленьня аутономнай Украіны і выбран канцлер.**

**На 1 мая старога стылю у Кіеві сазываецца устаноучы сэйм, каторы павінен прызнаць законнай пастанову нацыянальнаго конвэнту аб аб'яуленьні Украіны незалежнай рэспублікай.**

**Штаб нацыянальнай міліціі памешчаецца у будынку унівэрсытэту. Міліція складаецца с цэлых палкоу пад камандай праудзівых генэралоу.**

**Расейскі тымчасовы урад дарэмна вёу перэгаворы с камісіей нацыянальнаго конвэнту, каб забаспечыцца проці грознай небаспекі аддзяленьня Украіны ад Расеі, бо з гэтай прычыны расейская воля апыніцца ізноу у небаспечным палажэньні. Тымчасовы урад даводзіу, што Расея можэ істнаваць толькі як фэдэрацыйная рэспубліка. Пакуль-жэ не збярэцца агульна-расейскі устаноучы сэйм, нельга прыступіць да перастройкі гасударства на гэткай аснові.**

**Адносіны дайшлі гэткай вострасьці, што, здаецца, спорка можэ быць развязана толькі сілай.**

## 30 красавіка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Англічане ўчора чатыры разы вялі штурм проці Опі і дарэмна марнавалі свае сілы. Вёска асталася ў нашых руках. Наабапол Скарп далей трывае сільны артылерыйскі агонь.

Паводлуг асьцярожнаго рахунку, англічане утрацілі 28 красавіка больш за 6.000 душ забітымі, больш за 1000 палонных і 40 кулемётаў. Разбіты 10 панцырных самаходаў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Артылерыйская бітва ад Суассон да Сюіп ізноў крапчэла, трывала ўсю ноч і на раніцы дайшла незвычайнай сілы.

---

28 красавіка мы збілі 11, а 29—23 самалёты і 3 лятучые шары.

Ріхтгофэн збіў 52-га ворага, Вольфф—26 го.

**Усходні тэатр:**

Спакойна.

На македонскім фронці—значная чыннасць артылерыі. Мы збілі 2 англіцкіе самалёты.

---

ШТОКГОЛЬМ. Першая падгатавіцельная **НАРАДА АБ СОЦЫАЛІСТЫЧНАЙ МІРНАЙ КОНФЭРЭНЦІІ** адбылася ў Суботу. На ей былі голандцы Трэльстра, Коль, Альбардо, даньскі міністэр Станнінг, швэды Брандінг, Вэльлер і Содэрб'ерг.

Прыехаў бэльгійскі соцыяліст граф. фон Бронкер, каторы адгэтуль паедзе ў Пецярбург. Ждуць голандца Ісмана і бэльгійца Вандэрвэльдэ.

Усе тры расейскіе соцыялістычные групы, як кажуць, зышліся на тым, каб адмовіцца ад штокгольмскай конфэрэнціі.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). С прычыны жаданьня прэдстаўнікоў II-ой арміі, каб быўшаго цара перавезьлі ў Петрапаўлаўскую крэпасць, і чысьленых спроб асоб, акружаючых цара, перэцягнуць на яго старану войско, каторае яго пілнуе,—спаўніцельны камітэт работнікоў і салдатоў пастанавіў зрабіць сьледзтво, як пілнуюць Мікалая Романова.

ШТОКГОЛЬМ. Між насяленьнем Пецярбурга пануе незвычайна нэрвовае настраеньне с прычыны чутак аб спадзеваных у часі сьвяткаваньня 1 мая разрухах. Адны кажуць, бытцым тымчасовы урад будзе скінут, ды толькі невядома, чы зробіць гэта саюз работнікоў і салдатоў, чы староннікі цара. Ізноў жэ другіе апавядаюць, бытцым у Пецярбург збіраецца 50.000 селян, каторые дабіваюцца адабраньня ўсіх прыватных зямель. Урэшці ходзяць чуткі, што мае быць выстаўлено жаданьне экспропрыяцыі ўсякаго прыватнаго меньня на карысць грамадзянства. Трывога узрастае с прычыны адозвы глаўнакамандуючаго генэрала Корнілова, каторы кажэ, што соцыялісты дагэтуль маюць у сябе 40.000 ваенных вінтовак і 30.000 рэвольвэроў, узятых у рэволюцыйные дні з арсэналу і дагэтуль ня верненых

У Донецкім басэйні рух ешчэ трывае

## Сьвяткаваньне 1 мая.

Дзень 1 мая—гэта сусьветнае пролетарыяцкае сьвято, усьвенчэнае доўгімі гадамі змаганьня рабочаго народу с пануючымі над ім станамі.

Клясовае змаганьне—змаганьне працы с капіталам—адбываецца ва ўсіх старонах сьвету. І ўсюды яно выліваецца ў тэй жэ самай формі, ўсюды ідзе аднэй дарогай, бо ўсюды аснова яго—адна. З аднаго боку стаяць многамільённые грамады работнікоў, каторые апрыч пары здаровых рук нічога не маюць; з другога — тые станы, каторым у ходзі гістарычнаго развіцьця грамадзянств удалося забраць у свае рукі капітал і ўсе прылады да працы: фабрыкі, машыны, варштаты і т. п. На гэтым грунці і ідзе грамадзкая вайна між пролетарыятам і капіталістамі: работнікі дабіваюцца, каб усе фабрыкі, усе прылады да работы станавіліб меньне ўсяго народу, а тады кожын, хто памнажае нацыональнае меньне, будзе роўна з другімі карыстаць с прыбытку ад сваей працы.

Еднасць інтэрэсоў рабочаго народу ўсіх краёў і нацыональнасьцей выяўляецца асабліва ярка ў гэтым маёвым работніцкім сьвяце. Як шырок сьвет, усюды 1 мая работнікі спыняюць работу і устраіваюць маніфэстацыі і сходы народные, на якіе збіраюцца нялічэные грамады людзей. Усюды соцыялістычные прамоўцы прызываюць пролетарыяцкіе массы цясьней організавацца, каб крок за крокам адваёвываць сабе лепшые варункі працы, а ў будучыне, здабыўшы перэвагу ў жыцьці дзержаў, перастроіць увесь грамадзкі лад на новых асновах.

На ўсім сьвеці, дзе пролетарыят ужо здалеў вдабыць для сябе шырокіе правы, сьвято 1 мая работнікі спраўляюць зусім свабодна і адкрыта. Толькі ў аднэй Расеі, пад цяжкай рукой самадзержаўных цароў, крывавымі усьміреньнямі глушыліся ўсе правы работніцкаго руху, а ў тым ліку і маёвые забастоўкі і дэмонстрацыі. Ешчэ год таму назад работнікам, каторые бы адважыліся выйсьці на вуліцу с чырвоными штандарамі, грозіў неміласэрны расстрэл... Сёлета ўсё перэмянілося: панаваньню самадзержавія настаў канец, цар і яго слугі, катаваўшые народ, апынуліся ў вастрозі і пад судом, і грамады рабочаго люду першы раз могуць сьмела і вольна выступіць на вуліцах мест Расеі, заяўляючы аб сваіх патрэбах і жаданьнях.

Першае свабоднае сьвяткаваньне 1 мая у Расеі—гэта ёсць разам і сьвяткаваньне победы народу над царызмам. Але на гэтай дарозі работнікоў асталася яшчэ адна вялікая прашкода: тое, што ўласць ад цара перэйшла ў рукі папраўдзі правіцельства буржуазіі, натуральнаго ворага пролетарыяту.

*Грамадзянін.*

## Вячорные мысьлі.

Беларускі рабочы клас стогнець пад двома ярмамі: ярмом капіталізму і пад ярмом шовінізму польскай буржуазіі. Ведама, што ў нас капіталісты, вельможные паны, шляхта, буржуазная інтэлігенція — ўсе яны паляві і ўсе яны накідываюць нам сваю мову як у прыватным жыцьці, так і ў касьцёлах, накідываюць нам чужую для нас культуру і чужые ідэалы. Калісьці, даўно, наша беларуская буржуазія злілася ў вадно с польскай буржуазіей, і яны многіе гады трымалі наш народ у цямноці, таргавалі ім, як сваей рэччу, адзіралі з яго скуру, устраівалі «Таргавіцы» і на многа лет запрадалі наш народ і ўсю нашу старонку расейскаму царызму. Дый цапер не супакоіліся яшчэ: чуем з усіх старон шовіністычные крыкі польскай буржуазіі, каб нанова наш край аддаць у няволю новай польскай манархіі. У інтэрэсах польскай буржуазіі, каб народы ў нашай старонцы жылі ў нязгодзі, каб рабочый наш люд ня мог згрупавацца вакруг сваіх ідэалоў; і дзеля гэтай мэты яна раздзьмухівае сваркі між рабочымі на грунці нацыоналізму. Бачучы, што, ня гледзячы на рожніцу нацыональнасьці, работнікі ў нашым краю: беларусы, літвіны і палякі—злучыліся дзеля супольнай працы, яны, каб разбіць гэту солідарнасць працавітаго народу, закладываюць «каталіцкіе» таварыствы польскіх работнікоў. Але сьвядомые работнікі нашаго краю ведаюць добра, што іх ворагі—гэта ня польскіе работнікі, каторые ня хочуць новаго ярма для нашай бацькаўшчыны, а ворагі іх—гэта польская буржуазія і капіталісты, і ў новые сеці не палезуць.

*Лабуць*

## У Вільні і ваколіцах.

× „**Каменняя труна**“. У адным з нумэроў «Гомана» была надрукована апрацаваная Властам народная легенда «Каменная труна». Легенда гэта паслужыла за тэму для драматычнаго твору аўтару

ШТОКГОЛЬМ. Ад тэй суботы да панядзелку ў Пецярбургі адбываліся супольные нарады рады работнікоў і салдатоў з дэлегатамі арміі с фронту. Дэлегаты арміі жаліліся, што штабы групы Гуркі і Брусілова затрудняюць нарады салдатоў аб іх патрэбах і недапусваюць рэволюцыйнай пропаганды ў войсках на фронці. Прынята рэзолюція аб пасылцы ўразжэ камісароў рады работнікоў і салдатоў с паўнамоччамі ад тымчасоваго ураду, каб уладзіць на фронці ўсе недаразуменьня.

ПЕЦЯРБУРГ. Прэдстаўнікам VII арміі Керэнскій сказаў, што кантроль рады работнікоў і салдатоў над тымчасовым урадам канечне патрэбен, бо рада становіць прэдстаўніцтво народу і арміі. Трэба верыць здароваму розуму народу.

Спаўніцельная камісія рады работнікоў і салдатоў павялічэна дзевятнадцацьцю прэдстаўнікамі арміі і складаецца цяпер с 63 асоб.

АМСТЭРДАМ. Тымчасовы урад у Пецярбургі заявіў, што ён ня пусьціць на фронт рэволюцыйных войск с Пецярбурга.

ЖЭНЕВА, Парыжскія газэты баяцца, што хвароба ваеннаго міністра Гучкова зашкодзіць плянам тымчасоваго ураду.

ЛЮГАНО. Кронштадт, паводлуг ведамасьцей «Corr. della Sera», ўсё ешчэ знаходзіцца ў руках рэволюцыонероў, аружных вінтоўкамі і кулемётамі.

ПЕЦЯРБУРГ. Плеханов маршалкуе ў камітэці міністэрства дарог, каторы разгледае пытаньне аб палепшэньні быту жалезнадарожнікоў.

КОПЭНГАГА. «Politiken» даносіць с Пецярбурга, што зачыненые ў Петрапаўлаўскай крэпасьці быўшые вышэйшые чыноўнікі заявілі, што яны гатовы прысягнуць на вернасць тымчасовому ураду. Урад на гэта адказаў, што ня можэ прыняць іх прысягі, пакуль не адбудзецца над імі суд. Найцяжэй вінаваціаць Шчэгловітова, Сухомлінова і Протопопова.

# З усяго сьвету.

ШТОКГОЛЬМ. «Socialdemokraten» даносіць з зусім пэўнай крыніцы, што маршалак соцыялістычнаго інтэрнацыоналу, бэльгійскі міністэр Вандэрвельдэ, выбіраецца у Штокгольм.

ШТОКГОЛЬМ. Место ўчора служыло за арэну бітв на вуліцах між паліцией і «неспакойнымі» элементамі. Разрухі трывалі ад 9 гадзіны вечара да поўначы. Рух на электрычнай чыгунцы спыніўся.

МАЛЬМЭ. З розных мест палудзеннай Швэціі даносяць аб дэмонстраціях. У Карльскроне былі разрухі. У 11 гадз. вечара паліція і пажарнікі вярнулі лад.

ЛОНДОН. «Daily News» даносіць, што амэрыканскі урад мае ніцца устроіць жыдоўскую рэспубліку ў Палестыне і аб'явіць рэспубліку у Грэціі пад кірункам Вэнізэлоса. Ладзючы жыдоўскую рэспубліку, Вільсон маніцца перэцягнуць на старану саюзьнікоў сотні тысяч жыдоў у Амэрыцэ.

АФІНЫ. Лямброс з усімі міністрамі падаліся у адстаўку.

АМСТЭРДАМ. «Handelsblad» даносіць, што у Грэціі ўсё прыгатовано да рэволюціі, каторая быццым-то мае пачацца 5 мая.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

### 27.IV. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На полі бітвы пры Аррас агонь артылерыі крапчэў з абодвых бакоў. Наабапол дарогі Аррас-Камбрэ англічане ізноў атакавалі, але з вялікімі стратамі адбіты агнём і штыкамі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Уздоўж ракі Эн і ў Шампані артылерыйская бітва ізноў дайшла вялікай сілы.

---

Ворагі утрацілі 11 самалётаў і два лятучые шары.

Лейтэнант Вольфф збіў свайго 21-го ворага.

У Македоніі, між Вардарам і Дойранам, мы зьнішчылі 2 англіцкіе самалёты.

### 28.IV. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Наабапол ракі Скарп ворагі далей абстрэлівалі нашы пазыціі. Пры Моншы адбіты некольківатак англічан са стратамі у іх. Сягоньня пасьля незвычайна сільнаго «барабаннаго» агня між Лёс і Кеан пачалася на ўсім фронці новая пяхотная бітва.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Далей трываў сільны агонь. Пры Брэ і Брімон адбіты французскіе наступленьня.

---

Збіты ў ворагоў 3 самалёты і 2 лятучые шары.

### Усходні тэатр:

С прычыны востраго агня расейскай артылерыі на узбярэжжы, на заходзі ад Луцка, на Залатой Ліпе, Нараёўцы і Путне на гэтых адрэзках узмацаваўся і наш агонь.

За нашымі лініямі ў бітве на паветры збіт варожы лятун.

### 29.IV. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Пасьля самаго сільнаго „барабаннаго“ агня ад Ленс да Кеан, 28 красавіка ізноў узнялася бітва. Гэта—трэйцяя спроба англічан прарваць нямецкіе лініі. У палудні бітва закончылася цяжкім разгромам англічан. Бітва бушавала з незвычайнай заядласьцю. Англічане былі ўварваліся ў Арле, Опі, Рэ. Контратакай у вострай штыкавой бітве ворагі адкінуты ў некаторых пунктах за нашу старую лінію. Арле асталося ў іх руках. На поўдні ад Скарп так сама ішлі вострые бітвы. Нашы войскі, ня гледзячы на некольківанглійскіх штурмоў, удзержалі ў сваіх руках зруйнаваные агнём артылерыі акопы. У англічан ізноў незвычайна цяжкіе страты.

На іншых фронтах—без выдатных прыпадкоў.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 29. IV. Італьянскі тэатр: Недалёка ад праходу Тонале ўзяты 22 палонные.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. Офіцыозное бюро Вольффа даносіць: „Глаўная камісія выслухала даклад статссэкрэтара Цыммэрманна аб палажэньні заграні‍чнай палітыкі.

„Даклад узмацаваў пераконаньне, што мы ў не надта далёкім часі дойдзем добраго канца вайны“.

БЭРЛІН. Рэйхстаг. Прэдстаўнік соцыял-дэмократоў высказаў сваю веру, што недалёк той момэнт, калі і Англія с прычыны падводнай вайны будзе прымушэна прыстаць на мірные перэговоры.

ЦУРЫХ. У першай бітве пры Аррас англічане утрацілі 2.000 афіцэроў, у тым ліку 700 забітымі, і ад 60 да 70 тысяч салдатоў. Якіе вялікіе павінны быць страты у другой бітве пры Аррас і ў часі французскаго наступленьня ў Шампані, каторые бязспорна былі шмат болей крывавы?!..

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 28 красавіка у англічан быў трэйці крывавы разгром на фронці Аррас. За здабычу зьнішчэнай вёскі Арле яны заплацілі нялічэнымі тысячамі забітых і раненых. Ва ўсіх іншых месцох мы ня толькі удзержалі свае старые пазыціі, але нават здабылі ў некаторых пунктах новые. Узяты ў палон 12 афіцэроў і 400 салдатоў, здабыты некольківулемётаў. Ворагі ўсюды мелі незвычайна цяжкіе страты. Густые грамады штурмаваўшых ворагоў станавілі знаменітую мэту для нашых гармат і кулемётаў. Перэвага, явая выявілася ў бітве пры Сомме у англіцкай артылерыі, счэзла. Нямецкая пяхота, як раней, так і цяпер, стаяла шмат вышэй за англіцкую.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). У начы з 26 на 27 красавіка нашы лятучые эскадры скінулі на французкіе военные таборы пры Мурмэлён і Буйі 250 пудоў бомб.

ЛЮГАНО. «Italia» даносіць с Парыжа:

Гэнэрал Нівэлль пазбаўлен каманды.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). За месяц марэц затоплено ўсяго 450 тарговых параходаў ёмкасьцю разам 885.000 тонн. У гэтым ліку 536.500 тонн—англіцкіх.

Ад пачатку вайны затоплено параходаў на 5.711.000 тонн ёмкасьцю. У тым ліку 4.370.500 тонн англіцкіх. Гэта — блізка чверць усіх англіцкіх параходаў, які Англія мела ў пачатку вайны.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Ў Сяродземным моры ізноў затоплены 10 параходаў і 6 парусных караблёў ёмкасьцю разам 55.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нямецкіе марскіе сілы зрабілі напасць на усьце Тэмзы. Маргэт і акружаючые яго форты былі энэргічна абстрэляны. Варожых марскіх сіл не было відаць. Усе нашы сілы вярнуліся назад бяз шкод і страт.

---

чужой мове і забываць усё сваё—роднае? Пад той час (у канцы 1906 г.) ў Вільні пачала ўжо выхадзіць першая беларуская легальная часопісь «Наша Доля». І Міцкевіч, з ранніх лет прабаваўшый укладаць вершы, завязаў з рэдакціей газэты жывые зносіны, а ў № 3 «Нашай Долі» мы ўжо чытаем першы друкаваны верш яго «Беларусам»:

Устаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі!
Устань ты, наша старана!
Ужо глядзіць к нам на палаткі
Жыцьця новаго весна!
Чы-ж мы, хлопцы, рук не маем?
Чы нам сілы Бог не даў?
Чы над родным нашым краем
Луч свабоды не бліщчаў?
Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сьцена.
І прачнецца ад дрэмоты
З намі наша старана!

Гэты першы верш, падпісаны добра вядомым псэўдонімам «Якуб Колас» (як народны вучыцель, Міцкевіч быў прымушэн укрываць сваё супрацоўніцтво у «крамольнай» газэці) найлепей характэрызуе кірунак, у каторым развівалася далейшая паэтыцкая творчасць маладога песьняра. Горача мілуючы родны край і сваіх братоў-беларусоў, Якуб Колас карыстаў са свайго таленту, каб будзіць народ ад сну, каб зваць яго да будаваньня новаго жыцьця — новай долі замест тэй нядолі, у якой беларусы пакутавалі. А здарэньня 1905—1906 гадоў прыдалі грамадзкаму кірунку паэзіі Коласа адценак рэволюцыйны. Гэты адценак асабліва выяўляецца ў «вастрожных» творах паэта. За організацію патайнаго «беларускаго саюза народных вучыцелёў», меўшаго на мэці, між іншым, дабіцца для беларусоў нацыональнай школы, Міцкевіч разам з некалькімі сябрамі быў у 1907 гаду засуджэн на тры гады ў вастрог і кару адбываў у Мінску.

Але Якуб Колас не абмежываўся толькі тэмамі грамадзкімі. Яго патрыотызм абнімаў увесь родны край і праявы яго, а перш за ўсё родную прыроду, каторая давала душы яго бязмерны спакой. І ён дае верные абразы гэтай прыроды, каторую адчувае і разумее так, як сапраўдны сын вёскі, дае малюнкі з жыцьця беларускай вёскі,—то сьветлые і ясные, то «cum grano salis» — выстаўляючы на сьмех тые стороны вясковаго жыцьця, каторые на гэта заслужылі. Спакойны гумор — гэта характэрная адзнака чысьленых аповесьцей Коласа, пісаных прозай, пад некалькімі псэўдонімамі (Тарас Гушча, Тамаш Булава і інш.). Многа твораў яго было друковано ў «Нашай Долі», «Нашай Ніве», «Маладой Беларусі», а, пачынаючы ад 1910 году, яны выходзяць адзін за адным асобнымі томікамі пад псэўдонімам Якуба Коласа —«Песьні Жальбы», «Батрак.—Як Юрка збагацеў», «Прапаў чэлавек» і пад псэўдонімам Тараса Гушчы—«Родные З'явы», «Апаведаньня», «Нёмнаў дар», «Тоўстае палена».

Побач са сваей чыста літэратурнай працай, паставіўшай Якуба Коласа на адным с першых мейсц у беларускай літэратуры часу адраджэньня, малады песьняр-вучыцель не пакідаў сваей прафэсыональнай работы. Маючы глыбокую веру, апраўданую апошнімі двома гадамі, што раней ці пазьней беларусы здабудуць нацыональную школу, Якуб Колас апрацовываў і школьные кніжкі, адна с каторых пад загалоўкам «Другое читаньне» і была выдана ў 1910 гаду. Кніжка гэта, як і ўсе творы Коласа, поўна гарачай любові да роднаго краю і становіць хутчэй паэтыцкі твор, чым работу пэдагога, ды гэтак дапаўняе сабой літэратурны здабытак песьняра.

Выйшоўшы з вастрогу, Колас некалькі гадоў туляўся с кута ў кут, ня могучы дастаць ніякай пастаяннай работы с прычыны сваей палітычнай «неблаганадзёжнасьці». Толькі незадоўга перад вайной яму ўдалося атрымаць мейсцо вучыцеля ў местовай школі ў Пінску. Але, калі пачалася вайна, яго ўзялі ў салдаты. Разам з другімі, яго паслалі ў Вільню, дзе ён заметаў вуліцы, як салдат. З вялікімі труднасьцямі яму, аднак, удалося вызваліцца, і ён чым скарэй выехаў адгэтуль у глыб Беларусі.

**Антон Новіна.**

